**Гродна**
№18 (453),
9 кастрычніка 2016

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# Нераўнадушныя да чужога цярпення





*Паводле Евангелля, урач дапамагае пацыенту ў нясенні крыжа*

**Амаль 10 гадоў у Гродне дзейнічае Душпастырства службы аховы здароўя. Супольнасць аб’ядноўвае дактароў, фельчараў, медыцынскіх сясцёр, акушэраў, лабарантаў, фармацэўтаў і выкладчыкаў горада. Члены душпастырства рэгулярна сустракаюцца разам, каб абмяркоўваць важныя хвалюючыя пытанні. А іх у працы медыка дастаткова.**

● працяг на с. 4

# Несці Божае слова туды, дзе аб ім яшчэ не чулі

**16 кастрычніка ў каталіцкім Касцёле распачынаецца Сусветны місійны тыдзень. У сваіх малітвах будзем узгадваць духоўных і свецкіх асоб, якія працуюць у розных кутках свету, абвяшчаюць Божае слова і паказваюць шлях да Збаўлення праз Хрыста.**

**Сярод тых, хто выконвае вялікую місійную справу – дыякан Анджэй Ганчар. Выпускнік Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі ў канцы лета адправіўся на гадавую місію ў Камерун. У сённяшнім нумары “Слова Жыцця” дыякан распавядае пра свой шлях да місіянерства і дзеліцца першымі ўражаннямі ад служэння ў афрыканскай краіне.**

● працяг на с. 5



***15 кастрычніка***
*Успамін св. Тэрэзы Авільскай.*

***16 кастрычніка***
*Сусветны місійны дзень. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі усіх місіянераў.*

***18 кастрычніка***
*Свята св. евангеліста Лукі, заступніка службы аховы здароўя. Молімся ў інтэнцыі ўрачоў, медсясцёр і працаўнікоў бальніц і хоспісаў.*

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***“Сімвал веры”***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале “Беларусь–4”. Чарговы выпуск – 6 снежня ў 19.45, паўтор – 7 снежня ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

***Кастрычнік***
*Аб плёне дыяцэзіяльных мерапрыемстваў – перэгрынацый, пілігрымак, святкаванняў і душпастырскіх сустрэч.*

*Аб духоўным перажыванні і Божых дарах для іх арганізатараў і ўдзельнікаў.*




**XXVIII ЗВЫЧАЙНАЯ НАДЗЕЛЯ**
**Лк 17, 11–19**

Езус, калі ішоў у Ерузалем, праходзіў праз Самарыю і Галілею. І калі Ён уваходзіў у адну вёску, сустрэлі Яго дзесяць пракажоных, якія сталі здалёк і моцным голасам казалі: "Езус, Настаўнік, змілуйся над намі". Убачыўшы іх, Ён сказаў ім: "Ідзіце, пакажыцеся святарам". А калі адышлі, яны ачысціліся. І адзін з іх, убачыўшы, што стаў аздароўлены, вярнуўся, моцным голасам праслаўляючы Бога, і, упаўшы ніцма да ног Яговых, дзякаваў Яму. А быў гэта самаранін. Тады Езус сказаў: "Ці не дзесяць было ачышчаных, дзе ж дзевяць? Не знайшлося нікога, хто б вярнуўся аддаць славу Пану, акрамя гэтага чужынца?". І сказаў яму: "Устань, ідзі; вера твая збавіла цябе".

## АЗДАРАЎЛЕНЧАЯ МОЦ ВЕРЫ

"Езус, Настаўнік, змілуйся над намі!". Напэўна, не аднойчы многія ў сваіх малітвах ужывалі падобныя словы. Асабліва тады, калі сапраўды перажывалі цяжкія і балючыя моманты, калі ўжо нічога самі не маглі зрабіць, не мелі сіл, надзеі, а часам ужо і жадання, каб штосьці змяніць, бо здавалася, што гэта не мае сэнсу. Дадзены фрагмент Евангелля паказвае нам сустрэтых Езусам пракажоных: адрынутых гамадствам, пакінутых сам-насам са сваёй хваробай. Толькі ў Ім няшчасныя бачаць ратунак. І атрымліваюць тое, аб чым просяць. Адзінае толькі – забываюцца падзякаваць. Усе, акрамя самараніна. Таксама і мы: аддзячваем людзям, якія нейкім чынам аказалі нам дапамогу, але не заўсёды памятаем пра Бога.

Езус здзяйсняе ў нашым жыцці цуды. Для гэтага неабходны толькі вера і давер Богу. Вера пераносіць горы, можа аздаравіць, здзейсніць тое, што здаецца немагчымым. І калі так станецца, варта не забыцца падзякаваць.

**XXIX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Лк 18, 1–8**

Езус расказаў сваім вучням прыпавесць пра тое, што трэба заўсёды маліцца і не падаць духам: "У адным горадзе быў суддзя, які Бога не баяўся і людзей не саромеўся. У тым самым горадзе была адна ўдава, і яна, прыходзячы да яго, казала: «Абарані мяне ад праціўніка майго». Але ён доўгі час не хацеў. А потым сказаў сам сабе: «Хоць і Бога не баюся, і людзей не саромеюся, але з-за таго, што гэтая ўдава не дае мне спакою, абараню яе, каб яна не прыходзіла больш дакучаць мне»". І сказаў Пан: "Паслухайце, што кажа несправядлівы суддзя. Дык ці ж Бог не абароніць выбраных сваіх, якія просяць Яго дзень і ноч, хоць і марудзіць абараніць іх? Кажу вам, што неўзабаве абароніць іх. Аднак Сын Чалавечы, прыйшоўшы, ці знойдзе веру на зямлі?".

## ЗНАЙСЦІ ЧАС НА ЛЮБОЎ

Эпоха, у якую мы жывём, характарызуецца пастаянным паспехам. Чалавек часцей наракае на недахоп часу, усё хоча зрабіць як мага хутчэй і адразу атрымаць рэзультат. Мы не маем часу на сяброў, бацькоў, сям'ю, дзяцей... Урэшце, нават на тое, каб проста жыць і быць шчаслівым. Сярод гэтага мы не раз забываемся пра Бога.

У прыпавесці Езус паказвае важнасць малітвы і тое, што яе не можа быць зашмат. Малітва – гэта размова з Богам, неад'емная частка кантакту з Ім. Без сістэматычнай малітвы сувязь губляецца, і тады цяжка казаць пра адносіны з Панам і Яго прысутнасць у нашым жыцці.

Такім чынам, мы павінны задумацца: ці сапраўды мы любім? Бо чалавек заўсёды знойдзе час на таго, каго любіць, і на тое, што ў сваім сэрцы лічыць важным і патрэбным.

*Кс. Ян Раманоўскі*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

*У кастрычніку вернікі асаблівым чынам бяруць у рукі пацеркі ружанца і звяртаюцца да Пана праз заступніцтва Яго Маці. Гэтая малітва з'яўляецца адной з найбольш папулярных у свеце сярод людзей простых і адукаваных, духоўных і свецкіх.*

# У Ружанцы – сіла!

Кожнае "Вітай, Марыя" адмервае час і з'яўляецца чымсьці тыпу духоўнай мелодыі, якая суцішвае розум і пачуцці. Разам з тым, цэнтр сваёй душы чалавек стараецца адкрыць на Божага Сына. Ружанец – гэта штосьці большае, чым мудрая і эфектыўная медытацыйная тэхніка. Гэта спроба ўвабраць у сябе ўсю сутнасць Евангелля, якое, паступова пранікаючы ў свядомасць, узмацняе веру і набліжае да Бога. Ян Павел ІІ апісаў сутнасць ружанцовай малітвы так: "Яна павінна накіроўваць дух да ўпадабання пазнавання Хрыста". У апостальскім лісце "Rosarium Virginis Mariae" Святы Айцец заклікае, просіць і заахвочвае нанова адкрываць скарб малітвы на ружанцы. "Гэта любімая малітва многіх святых. [...] У сваёй прастаце і глыбіні яна застаецца [...] малітвай з вялікім значэннем і прыносіць плён святасці" (RVM 1).

Молячыся Ружанцам, мы нібыта становімся пераемнікамі Марыі. З аднаго боку Яна з'яўляецца Заступніцай, а з другога – адной з нас, якая дайшла да поўнага адзінства з Панам. Яна таксама наша пацвярджэнне, гарантыя Божага абяцання і крыніца надзеі. Разам мы накіроўваемся туды, куды Марыя ўжо дайшла.

Сястра Лусія з Фацімы калісьці цудоўна сказала: "Ружанец з'яўляецца самай магутнай зброяй, з якой мы толькі можам змагацца на полі бою". Ніколі не позна, суцішыўшы сэрца, распачаць ружанцовую малітву. Яна такая лёгкая і адначасова багатая, што сапраўды заслугоўвае таго, каб хрысціянская супольнасць нанова яе адкрыла. Толькі ў Ружанцы наша сіла.

Гісторыя паказвае, як у складаныя для Касцёла часы распаўсюджвання ерасі Ружанцам горача маліліся дамініканцы. Сёння мы павінны адказваць на новыя выклікі. Колькі ў свеце вядзецца войнаў! Да сёння трываюць узброеныя канфлікты ва Украіне, Сірыі і многіх іншых частках свету. Акрамя ўсяго гэтага, у нашых сем'ях, магчыма, ёсць хтосьці, хто згубіўся на шляхах веры. Да таго, існуе яшчэ шмат людзей, якія ўвогуле не ведаюць Пана Бога, бо да іх не дайшла Добрая Навіна аб Збаўленні. Памолімся за абвесцікаў Божага слова на нехрысціянскіх тэрыторыях – місіянераў. Тым больш, што ў гэтым месяцы перажываецца Сусветны місійны тыдзень. Хутка будзем успамінаць св. Луку – заступніка службы аховы здароўя. Варта ўзяць у рукі ружанец з той верай, якую мелі нашы папярэднікі, і папрасіць у Бога праз заступніцтва Марыі ўсе неабходныя ласкі.

**Паклапоцімся аб тым, каб вярнуць дамоў цудоўны звычай заканчваць дзень супольным Ружанцам. Так мы звяжам малітвай нашыя сэрцы, каб яны сталі абарончай сцяной Хрыстовага Касцёла пад апекай Маці Міласэрнасці.**

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. АДВЕДАЦЬ ХВОРЫХ




У часе хваробы чалавек сутыкаецца з цярпеннем. Нездаровы, ён адчувае слабасць, разбітасць, пакінутасць. Выпадае з "нармальнага" жыццёвага рытму, застаючыся сам-насам з сабой і хваробай. Усё, што вакол, адыходзіць на другі план. У цэнтры ўвагі – здароўе. Аб яго каштоўнасці пісаў яшчэ Сірах у сваёй Кнізе мудрасці: "Больш варты здаровы і моцны бядняк, чым багач са знясіленым целам. Здароўе і моц лепшыя, чым усё золата, а моцнае цела – чым вялізныя багацці. Няма багацця большага, чым цялеснае здароўе, і няма радасці вышэйшай за радасць сардэчную. Лепш смерць, чым журботнае жыццё, і лепш вечны адпачынак, чым пастаянная хвароба" (Сір 30, 14–17).

Часам недамаганне моцна змяняе чалавека. Ён перастае радавацца таму, што любіў раней, становіцца абыякавым да рэчаў, якімі цікавіўся, з-за дробязей упадае ў адчай. Тут бліжняму варта праяўляць цярплівасць і чуласць, не дазваляючы сабе апускацца да шкадавання (тым болей, штучнага). Нездаровым людзям не падабаецца, калі да іх адносяцца з жалем. Тады хворыя адчуваюць сябе "нікчэмнымі", прыніжанымі ў сваім няшчасным становішчы. Добры прыклад таму паказаў Дрыс – герой французскай камедыйнай драмы "1+1. Недатыкальныя". Яго непасрэднасць і натуральнасць у адносінах да паралізаванага арыстакрата вярнула хвораму прагу да жыцця, што, мабыць, самае галоўнае ў такой сітуацыі.

Калі хвароба прыходзіць да блізкіх ці знаёмых, узнікаюць пытанні: "Чаму?", "За што?". Варта задаць іншае – "Навошта?". Бог не карае чалавека за правіны пры жыцці, а толькі вядзе шляхам выпрабаванняў дзеля мэты, сэнс якой вядомы толькі Яму.

Дзякуючы Езусу любое цярпенне мае збаўчую вартасць. Св. Павел гаворыць аб тым, што праз пакуты хрысціянін "дапаўняе ў сваім целе недахоп пакут Хрыста за Яго Цела, якім ёсць Касцёл" (параўн. Кал 1, 24). Таму так важна наяўнасць распяцця ў бальніцы і любым іншым месцы, дзе знаходзіцца хворы. Гэта напамін аб удзеле церпячага ў пакутах укрыжаванага Езуса. Чалавек, які ўсведамляе "цану" сваіх пакут, вытрымае нашмат больш, чым той, хто знаходзіцца ў роспачы, узлаваўся або наракае.

Неабходна асобна спыніцца над сітуацыяй з невылечна хворым. Дадзеныя абставіны патрабуюць шмат такту і любові. Самае страшнае для такога церпячага – адчуць сябе забытым. Можа хваляваць той факт, што ён становіцца для блізкіх "цяжарам", што вядзе да замыкання ў свеце фобій і падазронасці. Прысутнасць побач з хворым, дапамога яму ў нясенні грузу пакуты мае вялікае значэнне. Цярпячы павінен адчуваць заклапочанасць яго жыццём, а таксама тое, што ён вельмі патрэбны і важны.



Сам Езус часта спатыкаў хворых. Ён аздараўляў іх, праяўляючы сябе як Месію, Бога. "І куды б Ён не прыходзіў, у паселішчы, гарады ці ў вёскі, клалі хворых на плошчах і прасілі Яго дазволіць ім дакрануцца хоць да краю вопраткі Яго. І тыя, што дакраналіся да Яго, выздараўлівалі" (Мк 6, 56). Сляпым дараваў зрок, глухім – слых, пракажоных ачышчаў, памерлых уваскрашаў. І сёння Езус прадаўжае аздараўляць людзей. У свеце занатаваны тысячы выпадкаў цудоўных ацаленняў.

Трэба адзначыць, што разам з целам хварэе і душа. Таму яе таксама неабходна дыягнаставаць. Найлепшы лекар у гэтай сітуацыі – Хрыстос, хуткая дапамога – канфесіянал. Кожны можа стаць пасрэднікам у аздараўленні душы, калі бачыць "хваробу" бліжняга і далікатна, з любоўю звяртае ўвагу чалавека на трывожныя сімптомы.

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Хворы патрабуе блізкасці іншага чалавека, спагады і дапамогі.*
2. *Наведванне хворага прыносіць яму палёгку.*
3. *Задавальненне з выніку добрых учынкаў падымае настрой.*
4. *Пакутуючы чалавек – гэта пакутуючы Хрыстос.*
5. *"Шчаслівыя міласэрныя..." (Мц 5, 7).*



*Кс. Юрый Павайба*

*Напэўна, сярод знаёмых ёсць хаця б адзін чалавек, які знаходзіцца на лячэнні. Дадзены ўчынак міласэрнасці прыпамінае аб тым, што на месцы хворага можа апынуцца кожны. А гэта даволі непрыемная справа. Любая хвароба пазбаўляе чалавека добрага самаадчування і пачуцця бяспекі. З ёю звязаны страх перад болем і смерцю. Нездаровыя людзі часам перажываюць самоту, таму асабліва патрабуюць кантакту, блізкасці другога чалавека. Такая прысутнасць нярэдка значыць больш, чым лекі. Яна дадае сіл у барацьбе з хваробай і дапамагае акрыяць духам. Варта прыйсці да хворага і прысвяціць яму свой час. Прапанаваць дапамогу (напрыклад, схадзіць у краму, прыбрацца дома, прыгатаваць абед). Вельмі важна падтрымліваць чалавека малітвай. Для хрысціяніна наведванне хворых з'яўляецца спатканнем з Езусам, прысутным у кожным чалавеку. Таму не сумнявайцеся ў тым, каб здзейсніць дадзены ўчынак міласэрнасці, бо ўсё, што мы зробім для хворага, зробім Богу.*

*Ангеліна Пакачайла*

# Ружанец – скарб, які трэба адкрыць



***Кастрычнік называюць ружанцовым месяцам. У гэты час Касцёл асабліва заахвочвае да Ружанца, адной з самых высакародных форм малітвы, якую толькі можна знайсці ў каталіцкай Традыцыі. А высакародная яна, таму што адначасова ўзнёслая і простая. Кожная з таямніц Ружанца канцэнтруецца на адной важнай падзеі з жыцця Езуса Хрыста і Яго Маці, разважанне над якімі дапамагае пераймаць Іх у асабістым, сямейным і грамадскім жыцці.***

***Ружанец – гэта малітва, якая пераймяняе свет, асабліва калі яе адгаворваць разам. У гісторыі існуе мноства выпадкаў, калі ружанцовая малітва паўплывала на лёсы народаў. Сёння мы змагаемся з атакуючымі сіламі зла, таму нам як ніколі неабходна дапамога Марыі.***

***Ружанцовая малітва простая. Дастаткова...***

### 1. МЕЦЬ РУЖАНЕЦ

Часта можна ўбачыць, як хтосьці адгаворвае гэтую малітву на пальцах, што сведчыць аб яе прастаце. Аднак трэба мець ружанец, які будзе "пасаваць" да рукі. У некаторых іх шмат – у куртцы, штанах, машыне ці сумцы.

### 2. ВЫБРАЦЬ МЕСЦА І ПАСТАВУ

Часцей за ўсё мы шукаем ціхае і атмасфернае месца. Яно не абавязкова павінна такім быць, бо гэта не гарантуе добрую малітву. Часам задумваемся над тым, якая пастава цела найбольш адпаведная. З павагай да ўсіх тэорый трэба адзначыць, што неабходна выбраць такое становішча, якое на практыцы проста не перашкаджае.

### 3. ВЫЗНАЧЫЦЬ ЧАС

Ніхто не ведае, які час найлепш падыходзіць для малітвы. Для гэтага можна выкарыстоўваць кожную хвіліну жыцця: ідучы на працу, едучы ў тралейбусе, гуляючы па вуліцы, седзячы дома на ложку... Не бойцеся шукаць і спрабаваць – і знойдзеце! Не хвалюйцеся, калі не ўсё адразу будзе падыходзіць.

### 4. ПАЧАЦЬ

Вельмі часта можна сустрэць людзей, якія не бяруцца за ружанец, бо баяцца, што не будуць адпавядаць. Кажуць: "Навошта пачынаць, калі я не змагу стрымаць абяцанне і маліцца кожны дзень?". Трэба адважыцца на гэты крок і паспрабаваць. Далей Бог сам пакіруе ў гэтай малітве.

### 5. ПРАСІЦЬ АБ ЛАСЦЫ І РАЗВАЖАЦЬ

Многія адмовіліся ад ружанцовай малітвы, не ведаючы, як сумясціць адгаворванне "Анёльскага прывітання", лічэнне пацерак і разважанне таямніц. Ці рэальна ўсё гэта выконваць адначасова? А дзе тады месца на сузіранне? Насамрэч, малітва не грунтуецца на дасканаласці. Яна з'яўляецца Божым дарам. Пачніце з таго, што вам бліжэй. Дазвольце Духу Святому кіраваць сабой.

Не наракайце на адсутнасць канцэнтрацыі, няўважлівасць ці іншыя цяжкасці. Проста маліцеся так, як можаце. Бог сам падрыхтуе вас да чарговых этапаў малітвы і дасць неабходную ласку.



*"Калі ружанец у руцэ трымаю і кожнае «Вітай» шапчу, Тваю прысутнасць стала адчуваю, Тваім, Марыя, быць дзіцём хачу"*

Ружанец – выдатная дарога для аднаўлення адносін з Марыяй. Звяртаючыся да слоў Пана, якія Ён прамовіў праз Анёла, і да таямніц Яе жыцця, нанова знойдзем сваё месца і адновім адносіны з Той, каго сам Бог даў нам за Маці.

*Папа Пій XII у сваёй энцыкліцы "Ingruentium malorum" пісаў: "Не вагаючыся, яшчэ раз пацвярджаем публічна, што ўскладаем вялікія надзеі на святы Ружанец як на сродак вылячэння ад зла, якое засмучае нашы часы. Не са зброяй у руках, не з дапамогай чалавечай сілы, а толькі з дапамогай Божай, аб якой просім у гэтай малітве, зможа каталіцкі Касцёл, як Давід са сваёй прашчой, выйсці супраць свайго адвечнага ворага...". І гэта сапраўды так. Ведаю шмат малітваў з просьбай аб дапамозе, але найбольш "плённай" лічу Ружанец. Малюся ім, калі ў маім жыцці адбываецца што-небудзь дрэннае, калі хачу падзякаваць Богу за тое, што ў мяне ёсць, за здароўе сваё і блізкіх, калі патрабую падтрымкі. Для мяне гэтая малітва мае вялікае значэнне.*

*Прамаўляючы "Вітай, Марыя...", праз рукі Маці мы даручаем Божай міласэрнасці людзей, за якіх молімся. А хіба можна зрабіць нешта лепшае для нашых братоў і сясцёр?*



***Марыя Арцем'ева***

*Для мяне ружанцовая малітва з'яўляецца асаблівай, таму што гэта, па сутнасці, душэўная размова з нашай Нябеснай Мамай. Дзякуючы Ружанцу я магу паразважаць аб жыцці Марыі і Хрыста, уявіць сабе ўсё, што адбывалася з Імі. Гэта таксама магчымасць даверыць Маці Божай свае цяжкасці і перажыванні, навучыцца ў Яе цярплівасці, дабрыні і любові.*

*Малітва на ружанцы прыносіць супакой і дапамагае прыняць розныя складаныя сітуацыі. Важна памятаць, што падчас гэтай малітвы трэба дзяліцца не толькі сваімі праблемамі, але і радасцямі, бо Марыя знаходзіцца побач з намі як у бедах і хваробах, так і ў шчаслівых момантах жыцця.*



***Крысціна Рукша***

*Ружанцовая малітва – гэта размова з Богам. Нездарма папа Леў XIII заклікаў да яе: "Няма нічога больш прыгожага, чым шматлікія галасы, каторыя ва ўсіх кутках Зямлі няспынна моляцца і адначасова звяртаюцца да Найсвяцейшай Панны Марыі, разважаючы таямніцы святога Ружанца. Няхай хрысціянскія народы шукаюць заступніцтва Божай Маці з дня ў дзень з нарастаючым запалам; няхай яны ўсё часцей моляцца святым Ружанцам, выкарыстоўваючы яго не толькі як сродак ад няшчасцяў, але і як сапраўдны сімвал хрысціянскай набожнасці!".*

*Асабіста для мяне такі від малітвы вельмі важны, бо, адгаворваючы Ружанец, я магу паразважаць аб жыцці Езуса і Маці Божай, а таксама асаблівым чынам падзякаваць Богу або папрасіць Яго аб нечым для сябе ці сваіх блізкіх. Ружанец дазваляе праявіць цярплівасць ў малітве. Прамаўляючы таямніцу ці цэлую частку, мы паказваем Богу, што ўсведамляем важнасць гэтай малітвы і гатовыя ахвяраваць для яе свой час.*



***Марыя Янкевіч***



***Кс. Міхал Ластоўскі***

*МадэратарТаварыства Жывога Ружанца ў Гродзенскай дыяцэзіі*

*У паўсядзённым жыцці мы часта тэлефануем маме, каб падзяліцца смуткам альбо радасцю, папрасіць дапамогі ці парады ў цяжкіх сітуацыях. Гэтак жа мы "тэлефануем" да нашай Цярпліва Слухаючай Нябеснай Маці, калі бярэм у рукі ружанец і пачынаем маліцца.*

*Я часта паўтараю, што слова "ружанец" паходзіць ад слова "ружа". Таму кожнае прамоўленае "Вітай, Марыя" – гэта прыгожая кветка для Маці Божай, а ўвесь Ружанец – шыкоўны букет. Яго мы з удзячнасцю і любоўю дорым нябеснай заступніцы, якая ўзносіць да Бога ўсе нашы патрэбы і просьбы. У кастрычніку – ружанцовым месяцы – трэба асаблівым чынам памятаць пра малітву, дзякуючы якой вучымся разважаць найважнейшыя праўды Евангелля. Маліцца не толькі індывідуальна, але і супольна: прыходзіць у святыню, прымаць удзел у ружанцовых набажэнствах, – паколькі такая малітва мае яшчэ большую сілу. "Дзе двое ці трое сабраліся ў імя Маё, там Я ёсць сярод іх" (параўн. Мц 18, 19–20).*

*У Гродзенскай дыяцэзіі існуюць супольнасці Жывога Ружанца, у склад якіх уваходзіць па 20 чалавек. Яны штодзённа моляцца на працягу месяца, ахвяруючы свой час для Маці Божай і прадстаўляючы Ёй інтэнцыі: уласныя і ўсяго Касцёла.*

*Я прагну, каб прыгожая ружанцовая малітва не засталася толькі на вуснах старэйшага пакалення. Таму заахвочваю дзяцей і моладзь актыўна далучацца да "марыйнай ружанцовай школы".*

***Кс. Юрый Марціновіч і Кінга Красіцкая***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Быць дасканалымі – значыць быць міласэрнымі. Неміласэрны чалавек з'яўляецца дасканалым? Не! Неміласэрны чалавек з'яўляецца добрым? Не! Дабрыня і дасканаласць укаранёныя ў міласэрнасці. Канешне, прыклад таму – Бог. Але калі на гэтай падставе задумацца, то для людзей становіцца немагчымым дасягненне абсалютнай дасканаласці. Аднак, калі Ён стаіць перад нашымі вачыма як міласэрны, мы можам лепш зразумець, у чым заключаецца Яго веліч, і імкнуцца стаць як Ён: поўнымі любові, спачування, міласэрнасці.*

*Кожны хрысціянін пакліканы быць сведкам міласэрнасці на шляху да святасці. Падумаем, колькі святых сталі міласэрнымі, таму што дазволілі Божай міласэрнасці напоўніць свае сэрцы! Яны аддалі цела любові Пана, "выліваючы" яе ў разнастайныя патрэбы пакутуючага чалавецтва. У гэтым росквіце шматлікіх форм любові можна заўважыць адлюстраванні міласэрнага аблічча Хрыста.*

*Фрагмент звароту перад малітвай "Анёл Пański", 25.09.2016*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Папа Бенедыкт XVI у адной са сваіх прамоў трапна сказаў пра чалавека, што ён шчаслівы, бо мае калені. Д'ябал не мае каленяў, таму ён і д'ябал, цемра, таму навекі адсунуты ад Бога і не можа да Яго наблізіцца. А чалавек шчаслівы, бо можа маліцца, спавядацца, прыступаць да святой Камуніі, адараваць, трываць ля Езуса, утоенага ў Найсвяцейшым Сакраманце.*

*Таму давайце памятаць пра калені, бо малітва і адарацыя – гэта вялікая сіла, зброя Касцёла, веснік перамогі над злом, якой мы дабіваемся дзякуючы Божай моцы.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў Сакулах, 02.10.2016*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Трэба памятаць аб тым, што міру нельга дасягнуць выключна чалавечымі гуманітарнымі дзеяннямі, у гарызантальнай плошчы. Патрэбна вертыкальнае ўздзеянне – Божая дапамога. Хрыстос выразна кажа, што без Яго нічога нельга дамагчыся. Калі мы выракаемся Езусавай прапановы міру, то не знойдзем яго ў свеце. Адзіная наша надзея – у міры з Богам.*

*Быць хрысціянінам азначае быць паслядоўнікам Хрыста, а не проста дабрадзеем, філантропам. Паміж гэтымі паняццямі існуе вялікая розніца. Хрысціянін з'яўляецца такім дабрадзеем, які цесна злучаны з Езусам, дзякуючы чаму прыклад яго жыцця перадаецца іншым. Таму, змагаючыся за мір на зямлі, нам найперш неабходна думаць аб супакоі ў нашых сэрцах. А ён будзе, калі жыць у міры з Богам: гэта значыць, паводле Яго закону. Толькі тады мы станем сапраўднымі прыкладамі міру.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў інтэнцыі супакою, 20.09.2016*




◆ *У пачатку кастрычніка папа Францішак наведаў Азербайджан. Падарожжа адбылося пад дэвізам “Усе мы – браты”. Гэта другая паездка Святога Айца на Каўказ пасля яго візіту ў канцы бягучага года ў Арменію. Раней (30 верасня – 2 кастрычніка) Пантыфік быў з візітам у Грузіі. Азербайджан – найбольшую па тэрыторыі і колькасці насельніцтва каўказскую краіну – у маі 2002 года наведваў таксама Ян Павел ІІ.*

◆ *Касцёл у Германіі мае новага нябеснага заступніка. У баварскім Вюрцбургу адбылася беатыфікацыя а. Энгельмара Унцайтыга з супольнасці Місіянераў з Марыянхіла. Меў ледзьве 34 гады, калі загінуў у канцэнтрацыйным лагеры ў Дахаў. Яго часта называюць нямецкім Максімільянам Кольбэ, бо падобна святому ён аддаў сваё жыццё за вязняў. Падчас беатыфікацыйнай урачыстасці прэфект Кангрэгацыі па справах кананізацыі кард. Анджэла Амата заўважыў, што айцец быў “іскрой сапраўднай чалавечнасці ў цёмнай ночы нацысцкага тэрору”.*

◆ *Больш за 5 тысяч вернікаў з усёй Польшчы прынялі ўдзел у XXXII Пілігрымцы сужэнстваў і сем’яў, якая адбылася ў 4-ю нядзелю верасня на Яснай Гары. Згодна з традыцыяй падчас нядзельнай св. Імшы сабраныя пары аднавілі свае шлюбныя абяцанні. Сёлетняя сустрэча была прысвечана паглыбленню паслання папы Францішка, заключанага ў пасляcінадальнай адгартацыі “Amoris laetitia”, у якой Пантыфік заахвочвае сужэнцаў падтрымліваць моцнае каханне, напоўненае такімі каштоўнасцямі, як велікадушнасць, зацікаўленасць, вернасць і цярплівасць.*

◆ *Крыж супакою, выканы для Еўрапарламента і перададзены ў Брусэль яго дэлегатам Отмарам Карасам, пасля некалькіх месяцаў “выгнання” вярнуўся на сваё ранейшае месца. Член Еўрапарламента з Германіі Арнэ Герыке пракаментаваў гэтую падзею словамі: “Такім чынам хрысціянскія каштоўнасці Еўропы зноў трапілі ў належнае месца”. Крыж з’яўляецца паменшанай копіяй пяціметровага крыжа, устаноўленага ў 2006 годзе на адной з гор у ваколіцах Эбензэ ў Верхняй Аўстрыі. Пабудаваны з металічнай рашоткі, унутры якой змешчаны камяні з усіх краін-членаў Еўрасаюза.*

◆ *ААН фінансава падтрымала выданне антыкаталіцкай кнігі, якая патрабуе ад Касцёла змяніць сваё вучэнне аб чалавечай сексуальнасці. У адказ на гэта больш за 500 амерыканскіх навукоўцаў апублікавалі сумесную заяву, у якой цалкам падтрымалі вучэнне, выкладзенае папам Паўлам VI у энцыкліцы “Humanae Vitae”. Яны адзначаюць, што кніга не ўносіць нічога новага ў дыскусію аб маральнасці кантрацэпцыі, а толькі паўтарае аргументы, якія былі абвергнуты яшчэ ў 1968 годзе.*

*credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Нераўнадушныя да чужога цярпення



*Ардынарый запэўнівае, што пакліканне медыка – служыць у міласэрнасці*

● *працяг са с. 1*

*18 кастрычніка – літургічны ўспамін св. Лукі, апекуна медыкаў. У гэты дзень у гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў 19.00 адбудзецца св. Імша ў інтэнцыі работнікаў службы аховы здароўя. Пасля яе – традыцыйнае спатканне біскупа дыяцэзіі з медыкамі Гродзеншчыны.*

## ЧАСАМ БЛІЖЭЙ, ЧЫМ СВЯТАР

Душпастырства службы аховы здароўя г. Гродна існуе з 2007 года. Ініцыятарам і заснавальнікам супольнасці з’яўляецца кс. Андрэй Радзевіч. Святар апекаваўся ёй на працягу 4-х гадоў. З лістапада 2011 года душпастырам быў кс. Мікалай Ціхановіч. З верасня 2015 года па сённяшні дзень ім з’яўляецца кс. Віталій Сідорка. “Любы від дзейнасці чалавека блаславёны Панам, і кожны пакліканы да рэалізацыі пэўных Божых намераў, – зазначае кс. Віталій. – Таму духоўная апека над людзьмі жыццёва неабходная, асабліва над тымі, хто сутыкаецца ў сваёй прафесійнай дзейнасці з экстрэмальнымі сітуацыямі. У гэтым ліку і медыкі, якія маюць справу з хворымі, болем, цярпеннем і нават смерцю. Часамі яны могуць бліжэй падысці да чалавека, чым святар. Калі няма свядомасці, што хворы – гэта бліжні, а дапамога яму – заданне ад Бога, то і падыход да працы зусім іншы”.

Апекуны душпастырства – святыя Косма і Дам’ян, лекары і цудатворцы. Два браты, якія бескарысліва лячылі хворых, не чакаючы ніякай узнагароды. “Некаторыя медыкі трапляюць у сітуацыі паза катэгорыі «нармальнасці», – гаворыць кс. Віталій. – Такія выпадкі можна ахарактарызаваць адным словам – цуд. Многія праз гэта навяртаюцца. Але адразу хачу зазначыць, што большасць урачоў, якіх я спатыкаў, на шчасце, веруючыя”.

У склад душпастырства ўваходзіць каля 50-ці ўдзельнікаў, якія рэгулярна прыходзяць на сустрэчы. Сярэдні ўзрост членаў супольнасці – 40-45 гадоў.

Усяго ў горадзе больш за тысячу медыцынскіх работнікаў. Але, як відаць, толькі паўсотні шукаюць духоўнай падтрымкі ў хрысціянскай супольнасці. Не хапае часу? “Мабыць, няма свядомасці, што душпастырская апека жыццёва неабходная, – тлумачыць кс. Віталій. – Служэнне медыкаў выходзіць паза межы прафесіі, бо яны выконваюць надзвычайную місію. Кожнае спатканне з хворым – выключна індывідуальная справа. Часамі здараюцца непрадбачаныя абставіны, да якіх персанал не падрыхтаваны. Ды і самая, здавалася б, простая акалічнасць можа скончыцца нечакана… Канешне, па-людску я разумею: каласальная занятасць, пасля працы хочацца адпачыць. А прыйсці на спатканне, выдзяліўшы некалькі гадзін з адзінага выхаднога ў нядзелю, – сур’ёзны высілак. Аднак мне б усё ж вельмі хацелася, каб удзельнікаў гэтых сустрэч было больш”.



*Прафесія лекара – адна з самых неабходных і высакародных на зямлі*



*Сумесныя сустрэчы з’яўляюцца для медыкаў крыніцай натхнення*

## ГАЛОЎНАЕ – НЕ НАШКОДЗІЦЬ

Штомесячна члены супольнасці збіраюцца на сумесную св. Імшу, пасля якой адбываецца спатканне. Да ўвагі ўдзельнікаў душпастыр прапануе даклады на тэмы, звязаныя з духоўнасцю як урача, так і пацыента. “Некаторыя праблемы выходзяць па-за межы медыцынскай кампетэнцыі, – падкрэслівае кс. Віталій. – Як, напрыклад, ставіцца да цярпення чалавека, яго болю, трагедыі? Чаму асоба можа цярпець і пры гэтым радавацца альбо быць удзячнай? Прапаную разважанні Касцёла на гэты конт”.

Андрэй Аслаўскі згаджаецца з тым, што любое цярпенне становіцца для чалавека выпрабаваннем, таму хворага вельмі важна падтрымліваць, падбадзёрваць. З боку медыка ў дадзеным выпадку патрабуецца асаблівая ўвага і цярплівасць. “Галоўнае – памятаць аб першай запаведзі медыка – не нашкодзь”, – запэўнівае Андрэй. “У размове з пацыентамі я імкнуся данесці, што Бог міласэрны і Ён не пакідае чалавека ў цярпенні, – гаворыць Тарэза Банцэвіч. – Заахвочваю чытаць Біблію, дзе можна знайсці адказы на ўсе хвалюючыя пытанні”.

Апошнія 2 гады члены душпастырства разважалі на спатканнях над вучэннем Катэхізіса Каталіцкага Касцёла. Падымаліся такія пытанні, як эмацыйны складнік у прафесійнай дзейнасці медыка, людская няўдзячнасць, пачуццё неспакойнага сумлення. “Часам медыкі хвалююцца, што ў іх няма суперажывання да хворага, – гаворыць кс. Віталій. – Лічаць гэта сваім недахопам. Але чаму? Справа, перш за ўсё, у тым, што чалавек «выгарае». Я тлумачу, што асоба фізічна не можа спачуваць кожнаму хвораму, калі іх вельмі шмат. Заахвочваю не браць усё блізка да сэрца і галавы: суперажыванне павінна быць не толькі на эмоцыях, але ў першую чаргу на ўзроўні добрай і якаснай дапамогі пацыенту”.

Караліна Бутоліна прызнаецца, што ў душпастырстве ўпершыню задумалася над пытаннямі біяэтыкі. “Такую дысцыпліну не выкладаюць у медуніверсітэце, – сцвярджае яна. – Змяніла сваё стаўленне да кантрацэпцыі, ЭКА. Тут я атрымліваю шмат важнай і карыснай інфармацыі, якая натхняе мяне і дапамагае ў жыцці і прафесіі”.

## КУРС НА ПАГЛЫБЛЕННЕ ВЕРЫ

На працягу 3-х апошніх гадоў у Лідзе і Гродне праходзяць Дыяцэзіяльныя сустрэчы работнікаў службы аховы здароўя, прысвечаныя актуальным медыцынскім праблемам. У Адвэнце адбываюцца традыцыйныя рэкалекцыі, калі ўдзельнікі маюць магчымасць засярodзіцца на сваім духоўным стане. У час Божага Нараджэння – аплатковая сустрэча. У мінулым годзе члены душпастырства ўдзельнічалі ў рэкалекцыях, якія арганізоўвала Агульнапольскае душпастырства медыкаў у Чанстахове (Польшча). У планах – рэгулярныя выезды на такія рэкалекцыі.

Для сумеснай інтэграцыі звычайна ладзяцца пілігрымкі. Члены душпастырства пабывалі разам у Ліхэні і Чанстахове (Польшча), Вільнюсе (Літва), Асізі, Падуі, Рыме (Італія). У 2010 годзе прымалі ўдзел у агульнай аўдыенцыі медыкаў з папам Бенедыктам XVI.

Амаль год таму па ініцыятыве ўдзельнікаў была арганізавана дабрачынная акцыя. Пры падтрымцы дыяцэзіяльнага “Карытас” члены душпастырства набылі невялікія падарункі і наведалі старэйшых медыкаў, якія ўжо не прыходзяць на сустрэчы. А на Сусветны дзень хворага і ўспамін Маці Божай з Лурд збіраліся разам на супольнай св. Імшы ў Гарадской бальніцы №2.

У гэтыя дні адбылася першая сустрэча мясцовага душпастырства службы аховы здароўя ў Лідзе. Цяпер і там медыкі будуць мець штомесячныя спатканні. Усе разам плануюць збірацца на дыяцэзіяльных сустрэчах.

## АПЕКА НАД МЕДЫКАМІ-СТУДЭНТАМІ

Караліна Бутоліна прапануе ўзгадаць словы св. Маці Тэрэзы: “Важна не тое, што мы робім, а тое, колькі любові мы ў гэта ўкладваем. Усе мы павінны стаць святымі. Кожны на тым месцы, куды паслаў Пан”. Яна ўпэўнена, што медык пакліканы служыць людзям, браць на сябе адказнасць за іх здароўе і жыццё. А гэта немагчыма без любові да абранай справы.

Напрыканцы душпастыр заўважае, што было б добра наладзіць кантакты з медуніверсітэтам. “Адукацыя работнікаў службы аховы здароўя ў большасці засноўваецца на «матэрыяльных» дысцыплінах: фізіялогія, анатомія, генетыка, – зазначае кс. Віталій. – Часам гэтыя прадметы вядуць да спакусы стаць няверуючым або ўмацавацца ў бязвер’і. Як мне здаецца, душпастырская апека будучых медыкаў вельмі неабходная”.

***Ангеліна Пакачайла***

*Сустрэчы Душпастырства службы аховы здароўя адбываюцца ў кожную трэцюю нядзелю месяца. Спатканне распачынаецца св. Імшой у пабрыгіцкім касцёле ў 16.00. Пасля яе ў кляштары сясцёр назарэтанак праходзіць тэматычная канферэнцыя, якую для ўдзельнікаў рыхтуе душпастыр.*

*Далучайцеся!*



• працяг са с. 1

# Несці Божае слова туды, дзе аб ім яшчэ не чулі

*Місіянер – гэта, перш з усё, воін на перадавой, які прадстаўляе інтарэсы Бога. Акрамя таго, гэта яшчэ і чалавек, які не цураецца любой іншай працы. Калі ёсць такая патрэба, ён будзе мыць брудных дзяцей, чысціць прыбіральню ці навучаць лячыць, будаваць. Сапраўдны місіянер закасае рукавы і пачне выконваць ускладзеныя на яго абавязкі. Усе нашы словы павінны падмацоўвацца справай. Таму даваць прыклад іншым трэба, найперш, сваёй дзейнасцю і ўчынкамі.*

### ДЫЯКАН АНДЖЭЙ, ЯК ВЫ АДКРЫЛІ ДЛЯ СЯБЕ МІСІЯНЕРСКАЕ ПАКЛІКАННЕ?

Некалькі гадоў таму для навучэнцаў гродзенскай семінарыі ладзіўся праект "Пакліканне". Клерыкі здымалі відэа-ролік, дзе кожны распавядаў аб тым, якім чынам ён хоча рэалізаваць



Заняткі з энергічным дк. Анджэем прыносяць дзецям шмат радасці

сваё пакліканне ў святарстве. Рыхтуючыся, я ўзяў у рукі там-там (*музычны інструмент; драўляны барабан абцягнуты скурай* – ***заўв. рэд.***), пачаў іграць і разважаць над гэтым пытаннем.

*Місія Камерун больш за 20 гадоў нясе дапамогу дзецям у Бертуа і Яўндэ. Падтрымлівае найбяднейшых дзяцей і моладзь, забяспечваючы ім магчымасць атрымання адукацыі, даху над галавой, рэгулярнага харчавання і медыцынскай апекі.*

У пэўны момант сам Пан прамовіў да мяне. У галаве "загучалі" словы: "Божа, я хачу несці Тваё слова туды, дзе аб ім яшчэ не чулі". З таго моманту я пачаў сур'ёзна задумвацца пра місіі.

Чарговым крокам сталі рэкалекцыі, арганізаваныя айцамі місіянерамі з Варшавы. Тады я даведаўся шмат новага аб іх служэнні. Разам з аднакурснікам Дзянісам Бразінскім мы ўступілі ў Папскую місійную унію. Кожны яе член павінен маліцца за місійныя пакліканні, а таксама ў інтэнцыі тых, хто працуе далёка ад сваіх родных дамоў. Пазней мы атрымалі ліст-запрашэнне на практыку ў Казахстан, дзе непасрэдна ўключыліся ў місіянерскую працу. Пасля вяртання на Радзіму, дзякуючы ксяндзу Валерыю Быкоўскаму і айцу Казіміру Жылісу я пачаў служэнне ў гродзенскай турме. Цягам двух гадоў наведваў вязняў, рыхтаваў іх да споведзі, удзяляў святую Камунію.

### ШТО СТАЛА ШТУРШКОМ ДА ТАГО, КАБ АДПРАВІЦЦА НА МІСІІ Ў АФРЫКУ?

У 2014 годзе мае сябры Арцём і Марта Ткачукі сталі валанцёрамі дабрачыннай місіі "Foyer St. Dominique" у камерунскай сталіцы Яўндэ. Яны працавалі ў дзіцячым доме, які заснаваў польскі дамініканец айцец Дарыюш Гадава, і рэгулярна дзяліліся са мной уражаннямі. Іх аповеды мане захапілі. Адсюль узнікла жаданне паспрабаваць свае сілы ў якасці місіянера ў Камеруне.

Па прыездзе з Афрыкі Арцём і Марта сыгралі вяселле, дзе я і пазнаёміўся з айцом Дарыюшам. Ён шмат мне распавядаў аб сваім служэнні, якім займаецца на працягу 25-ці гадоў, а пасля запрасіў на практыку. Я напісаў просьбу да ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча. Ён пагадзіўся і выдаў дэкрэт, згодна з якім я магу цягам года знаходзіцца на місіях.

### ЯК РЫХТАВАЛІСЯ ДА ПАЕЗДКІ?

Найперш трэба было зрабіць прывіўкі і сабраць ахвяраванні на місіі. Грошы патрэбны, каб купіць квіток на самалёт. Ды і сам дзіцячы дом не прыедзеш з пустымі рукамі. На ўтрыманні айца Дарыюша знаходзіцца 50 дзяцей рознага ўзросту. Трэба ўсіх забяспечыць адзеннем і абуткам, пракарміць, адправіць у школу, аплаціць рахункі. Дзякуй Богу, у нашай дыяцэзіі знайшліся адкрытыя на маю просьбу ксяндзы пробашчы, якія дазволілі прыехаць у свае парафіі. Там я распавядаў аб тым, куды і з якой мэтай еду. І вернікі, усведамляючы, што місіянерская праца патрабуе не толькі малітоўнай, але і фінансавай падтрымкі, ахвотна складалі ахвяраванні, за што я ім бязмерна ўдзячны. З дапамогай ксяндза Уладзіміра Гуляя, пробашча лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа, удалося сабраць патрэбнае адзенне для дзяцей і закупіць 30 кілаграмаў мыла, якое ў Камеруне на вагу золата.

### ЯК ВЫГЛЯДАЕ ЖЫЦЦЁ НА МІСІІ, І ШТО ЎВАХОДЗІЦЬ У ВАШЫ АБАВЯЗКІ?

Мой дзень пачынаецца а палове 5-й раніцы. Я маю прыкладна гадзіну, каб памыцца, памаліцца на Брэвіярыі, пачытаць Святое Пісанне і паразважаць над ім, паколькі днём практычна немагчыма знайсці вольны час. Дзеці прачынаюцца раней – а 4-й гадзіне, бо павінны прыбрацца і паспець выканаць некаторыя даручэнні. У 6.00 распачынаецца св. Імша. Пасля набажэнства дзеці снедаюць і ідуць у школу, а ў нас з айцом Дарыюшам пачынаецца "вірлівае" жыццё. Я шмат працую фізічна, паколькі дзіцячы дом размяшчаецца на вялікай тэрыторыі. Там ёсць хатняя гаспадарка: трусы, галубы, паўліны. За ўсім неабходны дагляд. Акрамя таго, на мяне ўскладзена вельмі адказнае заданне – лячыць хворых дзяцей.

Каля 3-й гадзіны дня хлопчыкі і дзяўчынкі вяртаюцца са школы. Старэйшыя мыюць школьную форму, малодшыя малююць альбо гуляюць. У 17.30 усе моляцца на Ружанцы. Калі па нейкіх прычынах хтосьці не можа прысутнічаць, то павінен індывідуальна памаліцца пазней. Затым мы вячэраем. Ежа разносіцца ў вялікіх місках. Дзеці сядаюць проста на падлогу, паколькі сталоў для іх няма, і пачынаюць есці. Мясцовая кухня, канешне, вельмі адрозніваецца ад беларускай: у стравы дадаюць шмат спецый. Сярод камерунскіх дэлікатэсаў – чарвякі з пальмавага дрэва, змеі, малпы, вараны, галубы. Пасля вячэры кожны павінен прыбраць пасля сябе: падмесці, вымыць падлогу. Гэта выконваюць нават самыя маленькія.

Увогуле, дзіцячае жыццё тут падпарадкоўваецца пэўным правілам, за парушэнне якіх караюць. Дзягай тут, канешне, не б'юць. Таксама ніхто не забярэ на тыдзень тэлефон ці планшэт (гэтых рэчаў дзеці проста не маюць). Затое могуць паставіць дзіця на калені і даць заданне – вывучыць на памяць малітву. Цікава, што яны зусім не крыўдзяцца на пакаранне, а наадварот – прыходзяць і дзякуюць. Яны вельмі адкрытыя, прыязныя, зусім не ўмеюць плакаць. З вялікім задавальненнем



Падчас св. Імшы ў камерунскім Доме дзіцяці

бавяць са мною свой вольны час, любяць, калі я з імі гуляю, просяць, каб што-небудзь намаляваў.

### РЭЛІГІЙНАСЦЬ КАМЕРУНЦАЎ – ЯКАЯ ЯНА?

Аб тым, як выглядае жыццё супольнасці мясцовых вернікаў, на вялікі жаль, не магу расказаць, паколькі жыву на тэрыторыі дзіцячага дома, а не ў парафіі. Але калі даваць нейкую агульную ацэнку, то варта зрабіць акцэнт на тым, што ў Афрыцы няма няверуючых, ёсць толькі тыя, хто яшчэ не ведае Хрыста. Калі выходзіш у горад і назіраеш за людзьмі, то заўважаеш, што веруючых людзей сапраўды шмат. Многія носяць ружанец на шыі. Часта можна сустрэць таксі з рэлігійным надпісам кшталту "Бог – мой Збаўца".

Камерунцы могуць гадзінамі праслаўляць Пана праз танец і спеў. Яны шчыра вераць, што Бог ёсць, што Ён апекуецца імі і дапамагае. Але разам з тым гэтыя людзі вераць і ў сувязь паміж жывымі і памерлымі, таму не нясуць нябожчыка на могілкі (іх увогуле няма), а хаваюць яго каля ўласнага дома. Таксама ўпэўнены ў моцы пракляццяў. Аднак калі разабрацца, то тут няма нічога надзвычайнага. Падобную сітуацыю можна назіраць і ў Беларусі, калі католік ходзіць у касцёл, чытае Святое Пісанне і носіць пры гэтым чырвоную нітку на запясці альбо наведвае варажбітак.

### У ЧЫМ БАЧЫЦЕ СЭНС МІСІЯНЕРСТВА?

Я лічу, што місіянерам павінен быць кожны хрысціянін, а не толькі ксёндз ці манахіня. Гэтае служэнне – абавязак усіх, хто хоча ісці за Хрыстом і пераймаць Яго.

Езус сказаў сваім вучням: "Наказваю вам, каб вы любілі адзін аднаго" (Ян 15, 17). Таму місія кожнага чалавека – адкрывацца на бліжняга, не звяртаючы ўвагі на тое, дзе знаходзішся: у Беларусі ці, можа, на другім канцы свету. Паколькі менавіта праз любоў і ўчынкі міласэрнасці ўсе людзі на цэлым свеце пазнаюць Бога.

"Хрыстос – Пан рызыкі, не камфорту, бяспекі і ўтульнасці, – зазначае папа Францішак. – І каб пайсці за Езусам, трэба мець адвагу. Неабходна вырашыцца замяніць канапу парай чаравікаў, што дапамогуць хадзіць па дарогах, якія ніколі нам не сніліся, пра якія мы нават не думалі; па дарогах, якія могуць адкрыць новыя гарызонты, зарадзіць радасцю – той, якая нараджаецца з любові Бога і пакідае ў сэрцы кожны жэст, кожную паставу міласэрнасці. Трэба вырушыць у шлях, пераймаючы "шаленства" нашага Пана, які вучыць сустракаць Яго ў галодным, сасмаглым, нагім, хворым, сябры, які дрэнна скончыў, вязні, бежанцы і іміграньце, самотным блізкім чалавеку. Ва ўсіх асяроддзях любоў Бога заахвочвае нас несці Добрую Навіну, ператвараючы сваё жыццё ў дар для Яго і іншых". Ва ўсім, што я раблю, стараюся кіравацца гэтымі прыгожымі і мудрымі словамі Пантыфіка.

**Кінга Красіцкая**

**Калі хочаш стаць валанцёрам у камерунскім дзіцячым доме, Ты павінен:**

- мець бачанне свайго валантарыяту
- валодаць французскай мовай на камунікацыйным узроўні
- мець грошы на выезд (місія забяспечыць жыллём і ежай, на якія трэба будзе сваёй працай)

e-mail: **dariusz@misja-kamerun.pl**




**Nasz Dziennik.pl**

### „Вялікае пакаянне" на Яснай Гары

***Пад такім дэвізам 15 кастрычніка ў Чанстахове адбудзецца малітва адкуплення за грахі польскага народу.***

*Грамадзяне з розных куткоў дзяржавы прыпадуць да ног Каралевы Польшчы, каб выпрасіць прабачэнне і аздараўленне для сваёй краіны, а таксама разбурыць сцены зла, якія будаваліся ў Айчыне на працягу многіх стагоддзяў. "Сёння мы з'яўляемся сведкамі вялікага граху: людзі ва ўсім свеце і ў нашай краіне адварочваюцца і адыходзяць ад Бога. Таму мы павінны стаць на духоўную барацьбу ў малітве адкуплення і вызвалення. Хочам зрабіць гэта на Яснай Гары, у прысутнасці Той, якая заўсёды нас абараняла і нанесла апошні ўдар д'яблу", – растлумачыў сэнс "Вялікага пакаяння" кс. Пётр Гляс.*




### Ролю жанчын у Касцёле абмеркавалі ў Ватыкане

***Сустрэча адбылася па ініцыятыве Кангрэгацыі веравучэння ў рамках семінару ў Папскім універсітэце "Урбаніянум".***

*Падчас форуму гаворка ішла як пра пакліканне жанчын, так і пра канкрэтныя прыклады іх служэння ў Касцёле. Удзельнікі семінара мелі магчымасць пачуць кранальныя сведчанні аб працы ў душпастырстве, на місіях, у структурах Рымскай курыі і біскупскіх канферэнцый, сферы касцёльнай камунікацыі, экуменічнага і міжрэлігійнага дыялогу, катэхетычнай і дабрачыннай дзейнасці. Быў падкрэслены ўклад жанчын у інтэрпрытацыю Святога Пісання, развіццё тэалогіі, фармацыю святароў. Таксама абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з разуменнем Касцёла як Нявесты і Маці.*




### Абвешчана тэма Сусветнага дня СМІ

***51 Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі пройдзе 24 студзеня 2017 г. пад дэвізам "«Не бойся, бо Я з табой» (Іс 43, 5). Перадаваць надзею і давер у наш час".***

*Гэта адзіны сусветны дзень, устаноўлены II Ватыканскім саборам (у многіх краінах свету ён святкуецца ў нядзелю перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа). На гэты дзень ва ўспамін св. Францішка Сальскага – апекуна журналістаў – Пантыфік па традыцыі скіроўвае сваё пасланне.*

**Кінга Красіцкая**

*Урачыстасць адбылася ў Супольнасці св. Бенедыкта ў Жытоміры (Украіна) 24 верасня. У ёй прынялі ўдзел родныя і блізкія манахіні, а таксама кс. Андрэй Зноска – пробашч лідскай парафіі Божай Міласэрнасці, з якой паходзіць сястра.*



Мясцовы кляштар бенедыктынак – кляўзуровы, закрыты. Сёстры, якія ў ім жывуць, ставяць за мэту не актыўнае жыццё, напоўненае кантактамі з людзьмі, навучаннем дзяцей і моладзі, паслугай пры парафіях, але жыццё, закрытае ад людскіх вачэй за мурамі кляштара. Там у цішыні яны служаць Богу, разважаючы над Яго словам, молячыся Літургіяй гадзін. Зарабляюць на сваё ўтрыманне фізічнай працай у кляштарным агародзе і ў разнастайных майстэрнях. Такім чынам сёстры бенедыктынкі рэалізуюць дэвіз свайго ордэна: "Ora et labora" ("Маліся і працуй").

*Душпастырства моладзі Гродзенскай дыяцэзіі "OPEN" адсвяткавала 10-гадовы юбілей свайго існавання. Св. Імша падзякі за дар супольнасці адбылася ў гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі 29 верасня.*



Ва ўрачыстым набажэнстве, якое ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, прынялі ўдзел душпастыр моладзі кс. Антоній Грэмза і шматлікія вернікі – члены супольнасці.

На пачатку Эўхарыстыі кс. Антоній нагадаў блізіў сабраным сутнасць душпастырства: «OPEN» – гэта студэнты, працоўная моладзь, сем'і, нашы сябры з Нігерыі. Менавіта тут мы вучымся падтрымліваць адзін аднаго ў розных сітуацыях і, нягледзячы ні на што, заставацца з Богам". У гаміліі біскуп Станеўскі падкрэсліў важнасць дзейнасці маладзевай супольнасці. "Кожны з вас з'яўляецца апосталам. Таму трэба дзяліцца радасцю, думаць пра бліжняга, памятаць, што з вас пачынаецца новы свет", – сказаў іерарх.

Пасля заканчэння набажэнства ўсе сабраліся на супольную сустрэчу, каб падзяліцца ўспамінамі і ўражаннямі ад 10-ці пражытых гадоў, напоўненых рознымі падзеямі.

*У гэтым годзе ён напоўніўся новымі ўдзельнікамі і зараз налічвае каля 60-ці дзяцей ва ўзросце 10–14 гадоў (малодшая і старэйшая групы, а таксама былыя выхаванцы).*



З нагоды пачатку новага фармацыйнага года адбылася св. Імша. Звяртаючыся падчас гаміліі да ўдзельнікаў "Савіо-клуба", кс. Алег Каралёў SDB падкрэсліў значнасць асобы св. Дамініка Савіо і заклікаў браць з яго прыклад. Святар нагадаў дзецям аб "рэцэпце" святасці, які даў св. Ян Боско маленькаму Дамініку: быць заўсёды радасным, выконваць свае штодзённыя абавязкі і дапамагаць іншым.

"Савіо-клуб" у салезіянскім араторыі быў створаны з мэтай чалавечай і духоўнай фармацыі падлеткаў, каб дамагаць ім распазнаваць сваё пакліканне. Праз супольныя сустрэчы дзеці шукаюць уласны шлях да святасці. Дапамагаюць ім у гэтым сумесная малітва, духоўныя размовы, віктарыны, а таксама гульні, выезды на прыроду.

*Урачыстая цырымонія адбылася ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай 24 верасня.*



У св. Імшы прынялі ўдзел сёстры кармэліткі з Брэста, Адамавічаў і з-за мяжы. Разам з манахінямі маліліся шматлікія святары, айцы кармэліты босыя з Мінска, Нарачы і Мядзеля, а таксама госці і родныя с. Паўліны (Вольгі Шчолкі), якая прысягала Богу. Сёстры кармэліткі дзякавалі Пану за дар яе паклікання і прасілі вернікаў аб малітве ў інтэнцыі ўсіх манахінь з супольнасці, а таксама аб новых пакліканнях у Кармэль.

*Свята адбылося з нагоды ўспаміну апекуна парафіі св. Ліна.*



Па запрашэнні пробашча кс. Элія Анатоля Маркаўскаса на ўрачыстасць прыбыў кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч. У гаміліі Мітрапаліт заклікаў сабраных кіравацца евангельскімі каштоўнасцямі. "Мы перамаглі ў барацьбе з няволяй, але ці пераможам свабоду? – адзначыў іерарх, звяртаючы ўвагу на пагрозы сучаснага свету. – Новымі «святынямі» становяцца стадыёны і супермаркеты, выдаляючы хрысціянскія каштоўнасці на перыферыю грамадскага жыцця".

Пасля набажэнства і працэсіі з Найсвяцейшым Сакрамантам Мітрапаліт блаславіў сабраных. Затым парафіяне і госці накіраваліся на канцэрт, дзе выступілі калектывы мясцовай літоўскай супольнасці і госці з Алітуса.

*Удзельнікі спаткання разважалі над пытаннямі міласэрнасці ў паўсядзённым жыцці настаўніка-каталіка.*



Сустрэча пачалася канферэнцыяй на тэму каталіцкага разумення міласэрнасці. Яе прамовіў душпастыр настаўнікаў Гродзенскай дыяцэзіі кс. Антоній Грэмза. Пасля адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, а затым – св. Імша, якую ўзначаліў кс. Уладзімір Гуляй. У ёй прынялі ўдзел пробашч мясцовай парафіі кс. Андрэй Вітэк SAC і дэкан Радунскага дэканата кс. Генрых Яблоньскі.

Пасля Эўхарыстыі ўдзельнікі сустрэліся ў дыскусійных групах. Прысутныя мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца і абмеркаваць сведчанні міласэрнасці, пакінутыя святымі XX стагоддзя – папам Янам Паўлам ІІ, с. Фаустынай Кавальскай і Маці Тэрэзай з Калькуты.

*На юбілей старэйшага ксяндза Беларусі прыбылі гродзенскія біскупы, а таксама шматлікія святары, манаскія сёстры і вернікі з парафій, дзе служыў ксёндз прэлат.*



Казанне падчас урачыстай св. Імшы прамовіў адзін з самых малодшых выхаванцаў юбіляра – кс. Юрый Марціновіч. Святар разважаў над таямніцай паклікання, якое з'яўляецца незвычайным дарам Божай любові. Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, звяртаючыся да ксяндза прэлата, адзначыў: „Кожны дзень на працягу 60-ці гадоў ты кажаш Хрысту: «Я тут». Пры алтары, ля амбоны, у канфесіянале, на катэхезе, на лекцыях у семінарыі ты клапоцішся пра душы людзей, якія прагнуць Бога. Сёння мы дзякуем Пану і табе, дарагі юбіляр, за тваё «я тут»".

Падчас урачыстасці ў адрас ксяндза прэлата з вуснаў вернікаў прагучала шмат цёплых слоў. Былі прачытаны пажаданні ад кс. аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага. На заканчэнне кс. Юзаф падзякаваў усім за супольную малітву і дадаў: "Я таксама хачу скласці дар для вас і для ўсёй краіны. Пачынаючы з 1980 года, кожную першую пятніцу і суботу месяца я адпраўляю св. Імшу ў інтэнцыі нашай дзяржавы, усіх яе жывых і памерлых". Ксёндз прэлат зазначыў, што ахвяраваў ужо 868 такіх Імшаў.

*Моладзь спаткалася ў касцёле Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і св. Тэрэзы з Авіля 24 верасня.*



Цэнтральным момантам сустрэчы стала супольная Эўхарыстыя, падчас якой маладыя людзі разважалі над пытаннямі, як правільна належыць карыстацца тым, што Бог ахвяруе чалавеку праз свой Касцёл, а таксама навошта "аддаваць сябе" ў служэнні людзям. Пасля набажэнства пачалася забаўляльная праграма, дзе кожны з удзельнікаў меў магчымасць распавесці пра сваю навучальную ўстанову і будучую прафесію.

*На ўрачыстай св. Імшы ў Сакулцы (Польшча) прысутнічала каля 3-х тысяч вернікаў, сярод якіх і парафіяне сапоцкінскага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча.*



Набажэнства ўзначаліў кс. абп Эдуард Азароўскі, Мітрапаліт Беластоцкі. Гамілію прамовіў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Звяртаючыся да вернікаў, іерарх падкрэсліў, што "толькі трываючы пры Хрысце ў Эўхарыстыі, мы вучымся аддаваць сябе бліжнім – дарыць ім свой час, усмешку, добрае слова, учынак". Такому стаўленню ён заахвочваў вучыцца ў Марыі, Маці Міласэрнасці. І пажадаў, каб Яна заўсёды дапамагала знаходзіць шлях да алтара і чалавека.

Напрыканцы гаміліі біскуп нагадаў, што прыбыў у Сакулку ў Юбілейны год з вернікамі Гродзеншчыны, каб разам з імі прайсці праз Браму міласэрнасці. Асаблівай нагодай для гэтай пілігрымкі стала 25-я гадавіна ўзнікнення Гродзенскай дыяцэзіі.

*Манахіні з розных супольнасцей сабраліся ў пабрыгіцкім касцёле, каб на пачатку новага катэхетычнага года ўмацавацца ў веры і аднавіцца духоўна.*



Праграма спаткання ўключала канферэнцыю і адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту, прадугледжвала магчымасць прыступіць да споведзі. Кульмінацыяй сустрэчы стала св. Імша, якую ўзначаліў а. Вітольд Пяцельчык SChP. Гамілію прамовіў кс. Здзіслаў Вэдэр SDB. Святар заахвочваў сясцёр нанова адкрыць для сябе Эўхарыстыю, якая з'яўляецца цэнтрам жыцця кожнага чалавека. Пабуджаў праз штодзённы ўдзел у св. Імшы чэрпаць сілы, неабходныя для паслугі ў тых месцах, куды прыводзіць Божы Провід.

## У ГРОДНЕ АРГАНІЗОЎВАЕЦЦА ШКАПЛЕРНАЕ БРАЦТВА

**Айцы кармэліты босыя запрашаюць усіх шанавальнікаў Маці Божай з Гары Кармэль і тых, хто носіць святы шкаплер, у брацтва, якое ўтвараецца пры гродзенскай парафіі. Удзельнікі супольнасці будуць разам пазнаваць і развіваць кармэліцкую духоўнасць, карыстаючыся досведам святых папярэднікаў.**

Сустрэчы шкаплернага брацтва будуць рэгулярна праходзіць у кожную першую суботу месяца пры касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (вул. Курчатава, 41).
Першае спатканне – 5 лістапада ў 10.00.
У праграме: св. Імша, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і арганізацыйны сход.

## У БАРАНАВІЧАХ ПРОЙДУЦЬ РЭКАЛЕКЦЫІ ЦВЯРОЗАСЦІ

**Усебеларускія духоўныя практыкаванні адбудуцца 14–16 кастрычніка. Да ўдзелу ў рэкалекцыях запрашаюцца ўсе, каго хвалюе праблема алкагалізму і наркаманіі.**

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8-033) 325-57-64 – Юрый Гапонік.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**20 кастрычніка 1982 г.** – кс. Чэслаў Янкоўскі, *проб. Мінойты;*
**22 кастрычніка 1961 г.** – кс. Ян Жыткевіч, *проб. Квасоўка.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка **grodnensis.by***




*Хвала Хрысту!*
*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі “На скрыжаванні”. У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра этычныя нормы, праўду, якая ў кожнага свая, і культуру спажывецтва. Задумаемся над тым, чаму задаваць пытанні не сорамна і наўошта аналізаваць рэчаіснасць.*
*Наперад з Богам!*

# Дакапацца да ісціны

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: “Гасподзь Бог ёсць ісціна” (Ер 10, 10)**
Ісціна мае ўласцівы дух, які называецца духам праўды. Ён жа – Святы Дух, які складае з Айцом і Сынам адзіную і непадзельную Божую Істоту. Ісціна ёсць нешта вечнае і бясконцае. У той жа час няма нічога, што не было б праявай Бога, Вышэйшай Ісціны.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб журналісты ў сваёй прафесійнай дзейнасці заўсёды кіраваліся павагай да ісціны і моцным пачуццём этыкі**
Супрацоўнікі СМІ ўдзельнічаюць у фарміраванні грамадскай думкі. А таму яны як публічныя асобы павінны прытрымлівацца такіх этычных норм, як сумленне, спачуванне, ахвярнасць. Абавязаны праўдзіва адлюстроўваць рэальнасць, каб не ўводзіць бліжніх у зман. Папа Францішак заклікае каталікоў свету маліцца ў бягучым месяцы ў гэтай інтэнцыі.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: ісціна**
Ісціна – яна ж праўда? Не зусім. Напрыклад, хтосьці жыве дзеля кар’еры або дзеля дзяцей. І праўда ў кожнага свая. Ісціна ж дзесьці пасярэдзіне. Яна аднолькавая для ўсіх, незалежна ад полу, узросту, сацыяльнага статусу, веравызнання і інш.
Пошук ісціны ў некаторых займае месяцы, гады і нават цэлае жыццё. Парадокс у тым, што яна “на паверхні”: відавочная, бо ўяўляе сабой саму сутнасць (без чалавечага інтарэсу). Таму будзем пільнымі да таго, у чым нас запэўніваюць, маючы “здаровую” долю сумненняў.

**МЭТА МЕСЯЦА: дакапацца да ісціны**
Сённяшняга чалавека можна ахарактарызаваць як спажыўца, які ўсё радзей задумваецца над тым, што яму прапануе свет – згаджаецца аўтаматычна. Розум такога чалавека пачынае абмяжоўвацца прымітыўнымі рэчамі, з-за чаго на яго лягчэй уплываць.
Успомнім, як часта мы нешта прымалі да ўвагі, не задумваючыся. Паспрабуем засяроджана сачыць за тым, што адбываецца навокал, разважаць, аналізаваць і разам з тым даходзіць да сутнасці.

**СПРАВА МЕСЯЦА: не саромецца задаваць пытанні**
Любы пошук суправаджаецца сумненнямі, супярэчнасцямі, доўгімі разважаннямі. І чым больш пытанняў узнікае, тым глыбейшым будзе адказ. Асоба, якая пачынае іх задаваць, ступае на шлях да пазнання ісціны, што заведама ставіць яе ў выйгрышную пазіцыю. Пытацца аб чымсьці – не сорамна. Сорамна не ведаць нешта і закрываць на гэта вочы.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: “Хто адкажа на ўсе пытанні”, гурт “Дасягнуць нябёсаў”**
Выканаўцы падказваюць слухачу, у каго можна знайсці адказы на ўсе пытанні: хто “прыніжаным будзе абаронай”, хто “ўспомніць пакінутых і забытых”. Хрыстос – ісціна жыцця. “Ён мае сілу рассеяць смутак, боль часоў”. “І на нябёсы да сябе возьме, бо Божая любоў непераможная!”.

**КНІГА МЕСЯЦА: “Дух ісціны”, Артур Кац і Пол Фольк**




Для чалавека, які займаецца духоўным развіццём, ісціна ўяўляе большую каштоўнасць, чым любое багацце. Аўтары заахвочваюць шанаваць яе і шукаць з вялікай любоўю. Кніга складаецца з некалькіх сэнсавых частак, сярод якіх “Створаны жыць у ісціне”, “Ісціна ў характары і паводзінах”, “Абсалютная ісціна і дух ілжы”. Змяшчае шмат урыўкаў з прыкладамі, якія малююць наглядную карціну тэзісаў, што апісаны ў выданні.

**АСОБА МЕСЯЦА: святы Вольфганг**



Нарадзіўся каля 924 года ў Пфулінген (Германія). У 10-гадовым узросце паступіў у школупры кляштары Райхенау. У 956 годзе пераехаў у Трыр, дзе служыў настаўнікам у саборнай школе, дэканам сабора і канцлерам саборнага капітула. Выступаў за строгае захаванне зароку беднасці сярод духавенства. У 964 годзе ў Швейцарыі Вольфганг стаў манахам бенедыктынскага ордэна, у 968 годзе – быў пасвечаны ў святарскі сан. Пасля таго, як у 971 годзе яму з’явілася бачанне святога апекуна Отмара, ён адправіўся як місіянер на тэрыторыі, заселеныя паганцамі – у Норык і Венгрыю. Праз год быў адазваны ў Нямеччыну, дзе прызначаны біскупам Рэгенсбурга. Як пастыр дыяцэзіі праводзіў частыя візітацыі парафій, заахвочваючы святароў да душпастырскай стараннасці. Асабіста прамаўляў мноства казанняў, клапаціўся, каб у кожным горадзе была створана парафіяльная школа, збіраў бібліятэчныя калекцыі. Падчас чумы ў 987 годзе загадаў адкрыць усе збожжасховішчы і раздаваць бедным сабраныя запасы. Дзякуючы намаганням біскупа, было заснавана Пражскае біскупства.
Памёр, адпраўляючы св. Імшу, 31 кастрычніка 994 года. Кананізаваны 7 кастрычніка 1052 года папам Львом IX. З’яўляецца адным з трох самых вялікіх нямецкіх святых. Лічыцца заступнікам скульптараў, цесляроў, пастухоў.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў кастрычніку?**
*Св. Тэрэза (1 кастрычніка), св. Францішак (4 кастрычніка), св. Ігар (5 кастрычніка), св. Фаустына (5 кастрычніка), св. Аляксандр (11 кастрычніка), св. Дамінік (14 кастрычніка), св. Ядзвіга (16 кастрычніка), св. Павел (19 кастрычніка), св. Уршуля (21 кастрычніка), св. Антоній (24 кастрычніка), св. Сабіна (27 кастрычніка), св. Вольфганг (31 кастрычніка).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі: pokachailo.lina@gmail.com.*

***Ангеліна Пакачайла***

## Лепш пытаць, чым памыляцца

***Ці можна ўдзяліць сакрамант намашчэння хворых паміраючаму чалавеку супраць яго волі? Ці будзе гэта з’яўляцца актам міласэрнасці, неабходным для збаўлення яго душы?***

*Сакрамант намашчэння хворых удзяляецца, перш за ўсё, цяжка хворым асобам. Раней ён здзяйсняўся толькі аднойчы як т. зв. “апошняе намашчэнне”. Сёння гэты сакрамант чалавек можа прымаць некалькі разоў за жыццё, знаходзячыся пад пагрозай смерці.*

*Касцёл нікога не прымушае да намашчэння, а толькі прапануе сакраментальную паслугу. Чалавек заўсёды застаецца вольнай асобай, у тым ліку і ў сітуацыі, небяспечнай для яго здароўя. Ніхто не можа парушыць гэтае права, нават клапоцячыся аб збаўленні бліжняга.*

*Асоба, якая не хоча атрымаць намашчэнне, сама сябе пазбаўляе сакраментальнай ласкі. Гэта можа адбывацца з-за настойлівага трывання ў цяжкім граху, без жалю і жадання выправіцца. Здараюцца сітуацыі, калі хворы ці пажылы чалавек знаходзіцца ў поўнай свядомасці, здольны без цяжкасці размаўляць, і, маючы на сумленні цяжкія грахі, прагне паяднацца з Богам. Шкадуе за іх і хоча атрымаць адпушчэнне правін. Але да споведзі адносіцца прадузята: не прызнае яе абавязковасці і не збіраецца прыступаць да сакраманту пакаяння. У выпадку, калі хворы ў адказ на спробы растлумачыць, што гэта неабходны сродак паяднання з Богам, устаноўлены Езусам Хрыстом, надалей адмаўляецца ад споведзі, на жаль, яму нельга ўдзяляць сакрамант намашчэння хворых столькі часу, пакуль у яго будзе дастаткова сіл, каб паспавядацца. Калі асоба ўхіляецца ад сакраментальнай ласкі і наступае смерць, неабходна адразу запрасіць святара, каб разам паманіцца за памерлага.*

***Кс. Юрый Бяганскі***
*паводле grodnensis.by*




# “І да танца, і да ружанца”

Свята пад такой назвай прайшло ў гродзенскай парафіі Святога Духа. Эўхарыстыю ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Падчас урачыстасці вернікі супольна памаліліся ў інтэнцыі маладой парафіі, запусцілі ў неба ружанец з паветраных шароў, а таксама паслухалі выступленне парафіяльнага дзіцячага ансамбля “Анёлы” і моладзевага гурта “OPEN”.









# Вынікі конкурсу малюнкаў “Мая катэхеза”

У нумары газеты “Слова Жыцця” за 28 жніўня быў аб’яўлены конкурс, дзе маленькім чытачам прапанавалася адлюстраваць на паперы свой занятак па катэхезе. Прыемна здзівіла, што ўдзельнікі адказна аднесліся да сваіх прац. Дасланыя малюнкі ўяўляюць сабой карціны, у якія трэба ўглядацца ў пошуках сэнсу. Сёння рэдакцыя падводзіць вынікі і хоча адзначыць наступныя тры малюнкі.



**Вікторыя Юрчык** *(9 гадоў), Ліда*

*У цэнтры ўвагі на малюнку Вікторыі – катэхетка, якая распавядае пра Езуса міласэрнага. Аб гэтым гавораць промні, якія выходзяць з Яго сэрца. Відаць, што дзеці ведаюць пра Хрыста і Яго поўнае ласкі сэрца, таму што як адзін цягнуць рукі ўгору. На ўсіх іх спывае Божая міласэрнасць, якая саграване разам з промнямі сонца. Па баках малюнка – хлопчык і дзяўчынка, якія з цікаўнасцю пазіраюць на астатніх. Раскрытая кніга азначае даступнасць гэтай праўды для ўсіх.*




**Ангеліна Целеш** *(11 гадоў), Рось*

*На малюнку Ангеліны – катэхеза, якую праводзіць святар. Тэма занятка – “Бог ёсць Любоў”. Крыніца ведаў знаходзіцца ў Бібліі – узорным дапаможніку, без якога ў жыцці не абыдзецца ні адзін чалавек. Па правым баку святара размешчаны абраз з выявай Марыі і Езуса – спасылка на тое, што кожным у небе апекуюцца. На стале ў класе стаіць запаленая свечка, якая сімвалізуе прысутнасць Бога, і крыж – выразнае праяўленне любові Усемагутнага, які аддаў за грахі чалавецтва свайго Сына.*



**Кацярына Канцэвіч** *(11 гадоў), Гродна*

*Кацярына адлюстравала на малюнку дамашнюю катэхезу. Дзяўчынка паказала, як сям’я збіраецца разам на малітву за агульным сталом. На першым плане – галоўныя атрыбуты: распяцце і Біблія. З імі любая малітва імкнецца да дасканаласці. Сімвалічныя сэрцы нагадваюць пра тое, што ў душах людзей жыве Божая любоў. А рознакаляровыя кветкі сведчаць пра няспынны духоўны рост, які павінен адбывацца ўнутры кожнага чалавека. Яркія фарбы надаюць малюнку насычанасць і выразнасць.*

Пра незвычайныя заняткі па катэхезе распавялі таксама **Кірыл** *(8 гадоў)* **і Кіра** *(9 гадоў)* **Гушчы з Астравецкага раёна.** Дзеці прадэманстравалі, як на ўроках займаюцца аплікацыяй. **Агата Таўрэль** *(6 гадоў)* **з Гродна** адлюстравала на сваім малюнку “музычную” катэхезу, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі праслаўляюць Усемагутнага пад гітару, на якой іграе катэхетка. Шмат малюнкаў даслалі дзеці з “Руху Марыі”, што ў парафіі Гродна-Вішнявец: **Уладзіслаў Янкевіч** *(9 гадоў)*, **Вікторыя Сташэўская** *(9 гадоў)*, **Максім Пацук** *(12 гадоў)*, **Міхаіл Паўлоўскі** *(13 гадоў)*, **Ева Мацюта** *(13 гадоў)*, **Вікторыя Галкевіч** *(8 гадоў)*. Хлопчыкі і дзяўчынкі адлюстравалі клас, дзе праходзяць заняткі, і катэхета. Галоўны матыў у малюнках дзяцей – сумеснае развучванне малітваў. Незвычайную тэхніку калажа выкарыстала ў сваёй працы **Эвеліна Канарская** *(6 гадоў)* **з Гродна.** Некаторыя элементы былі папярэдне выразаны з паперы і наклеены на аснову з фонам. На малюнку Эвеліна адлюстравала, як катэхетка распавядае пра анёлаў.

***Аўтары ўсіх пералічаных работ атрымліваюць ад рэдакцыі прызы. Ужо хутка яны трапяць да сваіх адрасатаў. Усім плённай катэхезы!***

***Рэдакцыя***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанага Ксяндза Прэлата Юзафа Трубовіча**

ад усяго сэрца віншуем з юбілеем святарскага пасвячэння і жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і святога Юзафа. Няхай Божая ласка заўсёды Вас ахінае.

*З павагай, вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Мы бясконца ўдзячныя Вам за адноўленую святыню і інтэр’ер, што дапаўняе прыгажосць касцёла, эстэтычна аформлены двор, што вабіць рознакаляровымі кветкамі, за кожнае Божае слова ў час св. Імшы, якое паглыбляе ў нас веру. Няхай кожны дзень Пан Бог дорыць Вам часцінку шчасця, дапамагае ажыццяўляць планы і надзеі, на душы заўсёды будзе светла, лёгка і радасна, а побач будуць добразычлівыя людзі, сярод якіх і мы, Вашыя парафіяне. Дзякуем Богу за такога сумленнага і добрага святара, што працуе ў імя Пана.

*З малітвай, вернікі з касцёла Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Рандзілаўшчыне*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай здароўе спрыяе на працягу многіх гадоў, аптымізм ніколі не пакідае сэрца, побач будуць добразычлівыя людзі, святы Заступнік ахінае сваёй апекай, а Божы Провід вядзе па жыццёвых сцежках. Дзякуем за час, які Вы ўдзяляеце нам, і за адкрытае сэрца. Шчасці Божа!

*Моладзь з Аўгустоўка*

**Усім настаўнікам**

з нагоды Дня настаўніка ад шчырага сэрца жадаем Божага благаслаўлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, супакою ў сэрцы, моцнага здароўя на доўгія гады, радасці на кожны дзень, добрых вучняў і цудоўнага плёну са штодзённай працы.

*Францішканскі ордэн свецкіх, колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму**

з нагоды 17-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае любоўю і апекай, а Дух Святы адорвае ўсімі сваімі дарамі і дапамагае выконваць душпастырскую паслугу. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, стойкасці на святарскім шляху, які для Вас вызначыў Усемагутны, толькі радасных дзён і добразычлівых людзей побач. Мы шчаслівыя і ўдзячныя Пану Богу, што сустрэлі такога святара.

*З малітвай і павагай, апостальства “Маргарытка” і парафіяне з касцёла св. Юрыя ў Варнянах*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

з нагоды 17-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет сардэчных пажаданняў. Жадаем добрага здароўя, цярплівасці, стойкасці на святарскім шляху і задавальнення ад выконваемай паслугі. Дзякуем за духоўную апеку, нястомную малітву, разуменне і дабрыню. Няхай Дух Святы надзяляе Вас мудрасцю, а Маці Божая ўкрывае плашчом сваёй мацярынскай апекі. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Юзафу Багдзевічу**

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай здароўе будзе моцным, жыццё – доўгім, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай на дарозе, якую ўказаў Бог, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, адорваючы благаслаўленнем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух, жывы агеньчык якога ззяе ў Вашым сэрцы, будзе бясконца шчодрым на свае дары. Жадаем мноства радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця. Дзякуем за шчырае сэрца, падтрымку і добрыя адносіны да нас, працу і намаганні, якія Вы аддаеце на ўпарадкаванне касцёла, каб вернікам было ўтульна ў яго сценах. Дзякуем за тое, што Вы ёсць.

*Парафіяне з касцёла свсв. Космы і Дам’яна, Астравец*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх ласкаў ад усемагутнага Бога, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай здароўе заўсёды спрыяе, радасць і моц ніколі не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Езус Хрыстус падтрымлівае ў кожнай справе, а святы Заступнік заўсёды чувае над Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

**Паважанаму Айцу Аляксандру Махначу**

з нагоды Імянін жадаем моцы Святога Духа, усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама добрага здароўя, сіл, радасці на кожны дзень і добразычлівых людзей побач. Няхай Ваша шчырая малітва і павучальныя казанні надалей пранікаюць глыбока ў людскія душы.

*Вернікі з парафіі МБ Унебаўзятай, Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды 13-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, мудрасці і цярплівасці, радасці і задавальнення ад штодзённай святарскай паслугі, усіх Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай усемагутны Бог узмацняе Вас і адорвае сваім благаслаўленнем і любоўю на доўгія гады жыцця. Ад усяго сэрца дзякуем за святарскую працу і апеку над Апостальствам вечнай малітвы за святароў “Маргарытка”.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка”*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна перажываць кожны дзень. Няхай на твары заўсёды яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б’ецца ад той любові, якая ў ім жыве. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*Вернікі з парафіі св. Яна Паўла II, Смаргонь*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**

ў Дзень нараджэння складаем сардэчныя пажаданні здароўя, радасці, сіл і людской дабрыні. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае шлях святарскай паслугі і дапамагае ў выкананні душпастырскіх абавязкаў, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца і нястомна апекуецца.

*Парафіяне з в. Ракавічы*

**Паважанаму Айцу Аляксандру Махначу**

з нагоды Імянін і 10-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці ад абранай жыццёвай дарогі. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас у кожны дзень жыцця, Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай, а Дух Святы будзе шчодрым на свае дары.

*З памяццю ў малітве, ружанцовае кола св. Агаты з парафіі св. Тэрэзы ад Езуса ў Шчучыне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, радасці і моцнага здароўя. Дзякуем Вам за Божае слова, малітву і добрае сэрца.

*Парфіяне з касцёла Беззаганнага Зачацця НМП са Слоніма*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4962; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная